# Голас Радзімы

№ 34 (2176)
23 жніўня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




ТУРЫСТЫЧНЫ сезон убіраецца ў самую сілу... Мяркую так не таму, што валодаю дынамікай росту замежнага турызму ў рэспубліцы, ды і не аб тым гаворка, а таму, што ўсё часцей і часцей сустракаю турыстаў-іншаземцаў на вуліцах сталіцы. І сярод іх амаль заўжды распазнаю землякоў з-за мяжы, нават моладзь, з кім фармальна не маю ўжо этнічнай роднасці, бо і па месцу нараджэння, і па жыццёвай лініі яны з'яўляюцца дбайнымі грамадзянамі сваіх краін пражывання. Інакш і быць не можа, аднак не-не, дзе інтуітыўна, а дзе свядома, ярчэй, чым у «звычайнага» замежнага наведвальніка, загарацца іх вочы непадробным жаданнем зразумець, больш мяккай добразычлівасцю, шчырым інтарэсам да краю, адкуль пачынаецца гісторыя іх роду.

## З АДНЫХ КАРАНЁЎ

Усё вышэйсказанае смела адношу да дзяцей замежных суайчыннікаў, якія апошнімі ліпеньскімі днямі гасцявалі ў Беларускім таварыстве «Радзіма».

Варта адзначыць, што ідэю наведаць СССР прапанавала і рэалізавала савецкае таварыства «Родина», аб'яднаўшы з гэтай мэтай дваццаць пяць юнакоў і дзяўчат, выхадцаў з эмігранцкіх сем'яў. (Тая ж доля турыстычнай праграмы, што тычылася Беларусі, была клопатам і адказнасцю таварыства «Радзіма»). Група студэнтаў і школьнікаў з розных краін свету... Афанасій Элефтэрыядзі, напрыклад, вучыцца ў сярэдняй школе ў Грэцыі, Мігель Артэга з іспанскага горада Малагі — студэнт інстытута. Былі жыхары Лівана, Бельгіі, Аўстраліі. Таму вельмі заканамерна, што гутарка з маладымі турыстамі хутка звялася да цэнтральнай тэмы: навучэнства. І высветлілася, што ліванец Жорж Мухабіб сёлета вырашыў паступаць у Кіеўскі медыцынскі інстытут. Гэта не навіна, бо, як паведаміў першы намеснік старшыні прэзідыума таварыства «Радзіма» Мікалай Васілёнак, прафесія медыка вельмі прэстыжная ў асяроддзі маладога пакалення замежных суайчыннікаў. І прывёў такую дэталь: з пятнаццаці студэнтаў-стыпендыятаў таварыства дзесяць вучацца ў Мінскім медыцынскім інстытуце. Задаў і я свае пытанні:

— Што болей за ўсё з убачанага і пачутага ў нашых музеях, тэатрах, на выстаўках запомнілася вам?

— Хатынь, — хорам адказалі яны.

— Што вы ведаеце пра Чарнобыль?

Тут хор прыціх і вылучыў са свае грамады нясмелых «салістаў». А ведае той жа Жорж Мухабіб з краіны кедраў, што ўсіх дзяцей з зоны Чарнобыльскай станцыі эвакуіравалі. Ды яшчэ тое, што хоць рэактар і «засыпалі», але ён працягвае «выпускаць радыяцыю». Мікалай Чыбізубаў з Аўстраліі чытаў, што пілот «гэлікаптэра», які засыпаў чацвёрты блок станцыі, памёр... Не падумайце, што я папракаю іх у недасведчанасці. Каторы раз даводзіцца канстатаваць факт: замежныя суайчыннікі ў большасці сваёй мала што ведаюць аб выніках чарнобыльскай катастрофы яшчэ менш аб тых жудасных праблемах, якія яна нам прынесла.

У такіх вось групах — гэта ў дадатак да заўвагі наконт індывідуальнасці — не існуе аніякіх цяжкасцей з псіхалагічным настроем маленькага калектыву, пошукамі агульнай мовы для яго членаў. Іх гуртуе паходжанне з адных каранёў. Ці гэты здымак таму не доказ?

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА

## АХВЯРЫ СТАЛІНСКІХ РЭПРЭСІЙ

Апублікаваны Указ Прэзідэнта СССР, у якім прызнаюцца незаконнымі рэпрэсіі, што супярэчаць асноўным грамадзянскім і сацыяльна-эканамічным правам чалавека, якія праводзіліся ў адносінах да сялян у перыяд калектывізацыі, а таксама ў адносінах да ўсіх іншых грамадзян па палітычных, сацыяльных, нацыянальных, рэлігійных і іншых матывах у 20—50-х гадах, і поўнасцю аднаўляюцца правы гэтых грамадзян.

Савету Міністраў СССР, урадам саюзных рэспублік у адпаведнасці з даным Указам даручана ўнесці ў заканадаўчыя органы да 1 кастрычніка 1990 года прапановы аб парадку аднаўлення правоў грамадзян, якія пацярпелі ад рэпрэсій.

Гэты Указ не распаўсюджваецца на асоб, абгрунтавана асуджаных за ўчыненне злачынстваў супраць Радзімы і савецкіх людзей у час Вялікай Айчыннай вайны, у перадваенныя і пасляваенныя гады.

СВЕДЧЫЦЬ САЦЫЯЛОГІЯ

## У ЧАКАННІ ГОРШАГА

Як паказваюць даследаванні Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук БССР, наша грамадства апынулася сёння ў драматычнай сітуацыі. 77,6 працэнта апытаных жыхароў Беларусі пераканаsuccessfully, што колькасць нявырашаных праблем і цяжкасцей перабудовы ў рэспубліцы нарастае і канца гэтаму не відаць. Толькі 38 працэнтаў у той ці іншай меры падтрымліваюць эканамічны рэформы, пачатыя перабудовай. Большасць апытаных песімістычна глядзяць у заўтрашні дзень. 70 працэнтаў перакананы, што ў эканоміцы нічога не зменіцца, 37 працэнтаў настроены на пагаршэнне сітуацыі. 73 працэнты жыхароў Беларусі ацэньваюць сённяшні стан народнай гаспадаркі рэспублікі як нездавальняючы.

Больш за 70 працэнтаў апытаных выказваюць рэзкае нездавальненне забеспячэннем самым неабходным: прамысловымі і харчовымі таварамі, 63 працэнты — станам аховы здароўя, 66 — бытавым абслугоўваннем, звыш 60 працэнтаў — экалогіяй навакольнага асяроддзя.

Людзей непакоіць не толькі пагаршэнне матэрыяльнага дабрабыту, але і крызіс у духоўнай сферы.

Ва ўсіх грахах большасць абвінавачвае адміністрацыйна-камандную сістэму.

*Нашы адносіны з суседзямі павінны грунтавацца не на догмах і стэрэатыпах, якія дагэтуль пераважалі, а на наяўным балансе інтарэсаў, прычым, узаемных. Я бачу іх у рамках ажыццяўлення так званай сярэднееўрапейскай дактрыны.*

*Я ў прынцыпе не згодзен з паняццем «Усходняя Еўропа», якім мы дагэтуль карысталіся. Усходняя Еўропа — гэта, па сутнасці, і мы самі. Нашы бліжэйшыя суседзі на захад — Польшча, ГДР, ЧСФР, Венгрыя, Аўстрыя — краіны не Усходняй Еўропы, а Сярэдняй Еўропы.*

*Як будаваць з імі адносіны? Першая дамінанта тут — гандаль. Другая — культура. Мы павінны вяртацца да здаровага сэнсу, эра паказушнага сяброўства, ідэалагічнай еднасці мінула. Трэба шукаць тое, што нас яднала і яднае на працягу многіх стагоддзяў. А заўсёды яднае культура. Варагаваць могуць народы, культуры не варагуюць ніколі.*

*Я таксама супраць заклiку «Назад у Еўропу!», які з'явіўся апошнім часам. Ён проста недакладны. Калі мы так гаворым, мы ў нейкім сэнсе зневажаем саміх сябе, такім чынам мы прызнаём абвінавачванні, якія існавалі не адно дзесяцігоддзе, калі нашы апаненты сцвярджалі, быццам тут варварства, азіятчына. У студэнцкія гады я займаўся этнагенезам славян. Магу сказаць, што мы заўсёды былі ў Еўропе, мы еўрапейцы: Скарына — выдатны дзеяч Адраджэння, Цяпінскі і Гусоўскі — таксама. Таму заклік «Назад у Еўропу!» — недакладны заклік.*

*Іншая справа, што мы павінны больш актыўна інтэгравацца з Еўропай у палітычным і эканамічным сэнсе, развіваць паняцце агульнаеўрапейскага дома. Яно павінна быць блізкім і дарагім кожнаму жыхару Беларусі.*

*(П. КРАЎЧАНКА, міністр замежных спраў БССР).*

КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## ЗЛАЧЫННАСЦЬ РАСЦЕ

Амаль 180 тысяч злачынстваў, выпадкаў хуліганства і адміністрацыйных правапарушэнняў зарэгістравана ў рэспубліцы за шэсць месяцаў 1990 года. Тэмпы росту злачыннасці ў Беларусі за першае паўгоддзе ўдвая вышэйшыя, чым у 60—70 гады. Рост «п'янай» злачыннасці адзначаны ў 102 гарадах і раёнах БССР.

Найбольш складанае становішча ў Мінску і абласных цэнтрах: тут жыве 33,2 працэнта насельніцтва, а ўчыняецца больш палавіны ўсіх злачынстваў. Ускладняе сітуацыю п'янства. У нецвярозым стане ўчынена тры чвэрці наўмысных забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў, згвалтаванняў, 60 працэнтаў разбояў і грабяжоў. Асабліва неспакойна ў Віцебскай і Гомельскай абласцях — там рост «п'яных» злачынстваў склаў 47,6 і 21,6 працэнта.

У п'янства ўсё больш уцягваецца моладзь. У гэтым годзе ў нецвярозым стане затрымана 4,1 тысячы падлеткаў, а за ўцягненне іх у п'янку пакарана 2 тысячы дарослых. Кожныя два з трох непаўналетніх ва ўзросце ад 14 да 17 гадоў ужываюць спіртное. У выніку ўзровень злачыннасці сярод іх у 4 разы вышэй, чым сярод тых, каму за 30.

ТЭАТР З ПАРЫЖА



**Спектакль «Нарадзіцца вінаватым — нарадзіцца ахвярай» паводле кнігі Пятра Сіхроўскага быў першым, якім пачаў свае гастролі ў Мінску парыжскі тэатр «Лабрадор». Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык — заснавальніца тэатра, у мінулым — актрыса Стэфані Лоік, прызнаная лепшым рэжысёрам Францыі 1989 года.**

**Спектакль пабудаваны ў форме інтэрв'ю, якія даюць прадстаўнікі розных пакаленняў: нацысцкія злачынцы, іх ахвяры, дзеці адных і другіх. Галоўная яго думка—ці адказныя тыя, хто жыве цяпер, за ўчынкі сваіх бацькоў.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэнарыст і пастаноўшчык спектакля Стэфані ЛОІК гутарыць з гледачамі.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

Некалькі дзесяткаў студэнтаў Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна пакінулі ваенныя зборы і адмовіліся ад прысваення звання афіцэраў запасу. Асноўным матывам такога рашэння паслужыла, паводле іх слоў, нежаданне служыць у Савецкай Арміі. Але многім не спадабаліся адносіны да студэнтаў камандзіраў з ваеннай кафедры і ўмовы, у якіх праходзілі зборы.

У Беларускім савеце па турызму і экскурсіях прынята рашэнне аб сумесным з Міністэрствам культуры БССР правядзенні рэспубліканскага конкурсу на лепшую беларускамоўную экскурсію. Конкурс павінен садзейнічаць развіццю і распаўсюджванню беларускай мовы і літаратуры. Ён праводзіцца ў турысцкіх арганізацыях прафсаюзаў і ўстановах культуры рэспублікі да 15 снежня 1990 года.

Кантэйнер з 40 тонамі медыкаментаў і медыцынскага абсталявання, прызначанымі для жыхароў раёнаў рэспублікі, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, паступіў у адрас саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў Беларусі са Злучаных Штатаў. Гэта толькі малая частка бязвыплатнай дапамогі ад амерыканскай хрысціянскай місіі «Інтэрнэшнл Эйд». Усяго ж евангелістамі ЗША плануецца адправіць у Беларусь 400 тон лекаў, раствораў, якія садзейнічаюць вывядзенню з арганізма радыяцыі, медыцынскіх прыбораў і абсталявання, камплектаў аднаразовай бялізны і перавязачных матэрыялаў на суму 2 мільёны долараў.

АРАНДАТАРЫ



**У поўнай меры імкнуцца выкарыстаць шчодрасць беларускай прыроды ва Ушацкім доследным лясгасе. Лекавыя травы, ягады, грыбы і іншыя дары лесу, нарыхтоўкай якіх занялася спецыяльна створаная служба, прыносяць салідны даход. Пры гадавым плане 80 тысяч рублёў гаспадарка ўжо атрымала амаль удвая больш. Важнай крыніцай прыбытку з'яўляецца пчалярства. Асабліва высокімі смакавымі і лекавымі якасцямі вызначаецца мёд з пасекі, аддадзенай у арэнду пенсіянерам Юліі і Эдуарду Казіцкім. Вопытныя арандатары трымаюць 60 пчаліных сямей.**

**НА ЗДЫМКУ: агульны від пасекі, якую арандуюць пенсіянеры КАЗІЦКІЯ.**

ПРАБЛЕМЫ І МЕРКАВАННІ

# РЫНЕМСЯ НА ЗАХАД...

**ХАЦЯ ЗАКОН АБ ВОЛЬНЫМ УЕЗДЗЕ І ВЫЕЗДЗЕ ЯШЧЭ НЕ ПРЫНЯТЫ, ПРАБЛЕМА СТАНОВІЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ ВОСТРАЙ. АБ ГЭТЫМ ІНТЭРВ'Ю, ЯКОЕ ДАЎ КАРЭСПАНДЭНТУ ІНФАРМАЦЫЙНАГА АГЕНЦТВА НАВІН НАРОДНЫ ДЭПУТАТ СССР АКАДЭМІК ВІТАЛІЙ ГАЛЬДАНСКІ.**

**— Прыняцце закона аб вольным уездзе і выездзе чарговы раз перанесена на наступную, асеннюю сесію Вярхоўнага Савета СССР. Няма гарантый і таго, што ён будзе на ёй прыняты...**

— Гэта мяне непакоіць. Таму што свабода перамяшчэння — неад'емнае права кожнага чалавека, і пакуль яго няма, нельга гаварыць аб пабудове дэмакратычнай дзяржавы. Акрамя таго, адсутнасць права на вольную эміграцыю тармозіць развіццё нашых знешнеэканамічных кантактаў, у тым ліку стрымлівае намеры некаторых дзяржаў аказаць нам фінансавую дапамогу. Побач з несумненнымі дэмакратычнымі дасягненнямі апошніх гадоў сотні тысяч савецкіх грамадзян да гэтага часу вымушаны доўга і прыніжана выпрошваць дазволу на выезд. Нават калі гутарка ідзе аб кароткатэрміновай паездцы да сяброў ці сваякоў...

Амаль год назад Камітэт па міжнародных справах Вярхоўнага Савета СССР, членам якога я з'яўляюся, абмеркаваў і з невялікімі заўвагамі адобрыў праект закона. На вясенняй сесіі ён быў прыняты ў першым чытанні. Але да канчатковага зацвярджэння справа не дайшла — узнік шэраг праблем. З іх толькі адна, на мой погляд, істотная—фінансавая. Не было знойдзена прымальнае рашэнне па абмену савецкіх грошай на валюту замежных краін. На жаль, нашаму рублю да канверсуемасці яшчэ далёка, і ў гэтым плане праблема вольнага выезду цесна пераплятаецца з нашымі эканамічнымі цяжкасцямі.

**— У такім выпадку нават з улікам самых аптымістычных прагнозаў эканамічнага развіцця СССР рашэнне пытання можа зацягнуцца на некалькі гадоў.**

— Пераход рубля ў разрад канверсуемай валюты — задача, зразумела, не аднаго года. Але ставіць у залежнасць ад яе вырашэння прыняцце закона аб вольным уездзе і выездзе, я лічу, было б няправільна. Спадзяюся, ужо восенню будзе канчаткова ясна, на якіх умовах і ў якой колькасці савецкія грамадзяне змогуць купляць валюту. Ёсць прапановы аб продажы валюты па вольных рыначных цэнах. Аднак я супраць, таму што лічу, што ў гэтым выпадку для многіх выезд за мяжу будзе вельмі дарагім, а часам і недаступным.

**— Ці могуць затрымаць прыняцце закона апасенні наконт магчымага рассялення савецкіх эмігрантаў-яўрэяў на акупіраваных Ізраілем тэрыторыях!**

— Я не стаў бы ўвязваць праблему эміграцыі толькі з выездам савецкіх яўрэяў у Ізраіль. Акрамя таго, на акупіраваных тэрыторыях, наколькі я ведаю, знаходзяцца толькі долі працэнта ад агульнай колькасці выехаўшых.

**— Колькі савецкіх грамадзян, на вашу думку, хочуць пакінуць краіну!**

— Яшчэ два-тры гады назад, адказваючы на гэтае пытанне, я гаварыў пра дзесяткі тысяч. На жаль, сёння палітыка-эканамічная сітуацыя, на мой погляд, такая, што СССР у бліжэйшы час могуць пакінуць сотні тысяч, а то і мільёны грамадзян. Сацыёлагі, напрыклад, прыводзяць лічбу да двух мільёнаў. Ехаць будуць у першую чаргу маладыя людзі, якія не маюць сёння магчымасці рэалізаваць свае здольнасці ў нашай краіне. Факт сумны, але перашкаджаць яму дарэмна.

**— У такім выпадку ўзнікшая заклапочанасць наконт магчымых праблем на заходнім рынку рабочай сілы абгрунтавана!**

— Не варта перабольшваць. Новы закон дасць савецкаму грамадзяніну права практычна бесперашкодна пакінуць краіну. Аднак выдача ўязных віз і забеспячэнне работай будзе праводзіцца ў адпаведнасці з заканадаўствам і інтарэсамі той ці іншай краіны. Не выключана, што многім будзе адмоўлена. Уласна кажучы, гэта адбываецца ўжо сёння, калі некаторыя краіны праводзяць своеасаблівыя конкурсы сярод савецкіх грамадзян, хто жадае атрымаць работу за мяжой. Патрабаванні да прафесійнай падрыхтоўкі дастаткова высокія, і ў выніку ўязную візу атрымаюць нямногія. Тут больш прычын для занепакоенасці ў нас — краіну пакідаюць высокакваліфікаваныя спецыялісты, на падрыхтоўку якіх затрачаны значныя сродкі.

**— Ці можна неяк змяніць сітуацыю!**

— Перш за ўсё для высокакваліфікаваных навукова-тэхнічных кадраў павінны быць створаны адпаведныя ўмовы. Гэта і аснашчэнне сучасным абсталяваннем, і аплата працы, і сацыяльная абарона, і многае іншае. Я — рэаліст і разумею, што пералічаныя праблемы хутка не вырашыш.

Але што-небудзь можна зрабіць ужо сёння. У навуковай сферы — прадаставіць маладым вучоным магчымасць доўгатэрміновых стажыровак і работы ў развітых краінах Захаду. Як у нас, так і за мяжой трэба адкрываць сумесныя навукова-даследчыя цэнтры.

Універсальных рэкамендацый у гэтым пытанні быць не можа, але ў любым выпадку палітыка забароны, як паказвае сусветная практыка, непрымальная.

**Гутарку вёў Сяргей ЗАЙЦАЎ.**

## ИЗ КОМПЕТЕНТНЫХ ИСТОЧНИКОВ

# ИНТУРИСТ: ПУТЕШЕСТВИЯ БЕЗ ПРОБЛЕМ?

**ИНТЕРВЬЮ НАЧАЛЬНИКА ГЛАВНОГО УПРАВЛЕНИЯ ГОСКОМИТЕТА СССР ПО ИНОСТРАННОМУ ТУРИЗМУ В. МАКАГОНОВА КОРРЕСПОНДЕНТУ ИАН РОМАНОВУ.**

**— Сегодня наша страна — одна из наиболее привлекательных для путешественников. Однако у Интуриста всего 107 гостиниц, мотелей и кемпингов на 55 тысяч мест, и, чтобы удовлетворить заявки зарубежных туристских фирм, ему как минимум необходимо 200 тысяч гостиничных мест...**

— Такую гостиничную базу мы надеемся создать к 2000 году, а пока вынуждены ежегодно отказывать трем-четырем миллионам зарубежных гостей. В прошлом году в СССР побывало 7750 тысяч иностранцев, или на 30 процентов больше, чем годом раньше.

**— Несколько лет назад Интуристу была выделена крупная сумма на осуществление долгосрочной программы развития его гостиничной базы. Как она реализуется?**

— Уже в ближайшие два года должны войти в строй 30 новых гостиниц на 15 тысяч мест, еще 13 будут реконструированы, в том числе в Москве, Ленинграде и Ялте. Ведется строительство отелей и в других перспективных с точки зрения Интуриста районах, в частности на Кавказских Минеральных Водах. Введены и вводятся в строй гостиницы в Пятигорске, Кисловодске, Нальчике, Новосибирске, Пскове, Новгороде, Киеве, Херсоне, Одессе, Симферополе, Ташкенте, Ашхабаде. Многие возводятся при активном участии зарубежных строительных фирм.

**— Изменился ли поток туристов за последние годы?**

— Сегодня больше всего туристов приезжает из США. За год их число практически удвоилось и достигло 170—180 тысяч человек. Далее идут ФРГ, Франция, Италия. Скандинавы путешествуют практически по всем нашим туристским центрам, хотя наибольшей популярностью у них по-прежнему пользуются Москва, Ленинград, курорты Черного моря, Прибалтика, города Средней Азии. Вскоре ждем гостей из Юго-Восточной Азии, особенно из Южной Кореи.

**— Сейчас основной поток иностранных туристов идет через Москву и Ленинград, и если в этих городах из-за нехватки гостиничных мест их принять не в состоянии, даже на короткое время, то нет туристов и в Сибири, и в Средней Азии, и на Украине. Как исправляется недостаток «въездных ворот»?**

— Аэрофлот по договору с Интуристом увеличил и продолжает увеличивать число прямых рейсов из-за рубежа. Сейчас такие рейсы открыты в Тбилиси, Киев, Минск, Ташкент, Сочи, Прибалтику.

**— Хватает ли у вас специалистов?**

— Нет. До сих пор в стране нет ни одного учебного заведения, которое бы готовило специалистов с высшим образованием специально для работы в сфере международного туризма. Чтобы исправить положение, фирма обратилась в соответствующие учебные заведения с просьбой об открытии отделений для подготовки специалистов со знанием иностранных языков. Многих своих сотрудников мы посылаем на стажировку за границу.

**— Какое место занимают в вашей отрасли совместные предприятия?**

— Сейчас у нас двадцать уже работающих совместных предприятий. Ведутся переговоры о создании еще двадцати пяти — не только с туристскими организациями, но и со строительными фирмами, банками, гостиничными сетями США, Японии, Австрии, Италии, Швейцарии, Великобритании, Швеции и других стран.

**— Постепенно Интурист теряет монопольное положение на рынке услуг. Если раньше помимо него в сфере туристского бизнеса работали только такие организации, как Совет по туризму ВЦСПС, Бюро молодежного туризма «Спутник» и объединение «Совинцентр», то сейчас созданы и продолжают создаваться десятки новых, в частности, кооперативных, туристских фирм и организаций...**

— В целом они работают неплохо. Но в то же время наши конкуренты зачастую используют демпинговые цены. Не зная конъюнктуры, мировых цен, лишь бы привлечь туристов и получить хоть что-нибудь (разумеется, в твердой валюте), они готовы продать тур за полцены. Но спрос намного превышает предложение, поэтому Интурист практически ничего не теряет.

**— Как обстоят дела с первыми попытками приватизации, создания семейных гостиниц и пансионатов?**

— Пока это наиболее активно происходит в Прибалтике, где развит этнический туризм. К сожалению, сегодня жилищные, санитарные условия в целом по стране не позволяют широко внедрять эту форму приема гостей.

**— Интурист получает много валюты в результате своей деятельности. Вы по-прежнему практически все отдаете государству?**

— Сегодня туристские центры страны имеют больше хозяйственной самостоятельности, но практически вся заработанная валюта по-прежнему идет в госбюджет, из которого ее централизованно распределяют по туристским центрам. Мы внесли на рассмотрение правительства предложение, согласно которому Интуристу оставалось бы минимум 10 процентов валютных поступлений на развитие инфраструктуры. Местные власти получали бы половину, определенная ее часть шла бы и в бюджет республики.



Беларусь моя...

## *ЧТО МЫ НАВЯЗЫВАЛИ МИРУ*

# ЧУЖАЯ ГРЕНАДА

«От Севильи до Гренады в тихом сумраке ночей раздаются серенады, раздается стук мечей...» Замечено, что Россия, а особенно российские поэты издавна испытывали тяготение к Испании. Иногда это объясняют схожестью исторических судеб: и та, и другая страна, находящиеся на противоположных окраинах европейской цивилизации, играли «буферную роль» в отношении нехристианского мира, окружающего наш континент. Но, может быть, стихотворцев привлекала просто испанская экзотика: плащи и шпаги, кастаньеты и веера?

Мадрид, Толедо, Валенсия, Сарагоса... Но, пожалуй, более всего у нас известна Гренада. В 1926 году М. Светлов написал стихи, которые не только принесли славу самому поэту, но и сделали широко популярным географическое название, ставшее их заголовком. Произведение это давно стало хрестоматийным, позже оно было положено на музыку и распевалось под гитару. Тем не менее смысл его с течением времени и изменением жизненных реалий постепенно начинает ускользать от потомков.

Герой стихотворения — боец гражданской войны, «мечтатель-хохол», который «хату покинул, пошел воевать, чтоб землю в Гренаде крестьянам отдать». Почему в романтически далекой Гренаде? Следует, видимо, понимать так, что война, в которой принимал участие этот парень, воспринималась им как пролог — или составная часть — всемирной революции, чья цель — принести освобождение всем народам, в том числе и трудящимся Испании. Но герою не удалось увидеть свою мечту осуществленной. В украинской степи его настигает вражеская пуля.

Бойцу, озабоченному судьбой гренадских земледельцев, не суждено было узнать, что годы спустя, в ходе коллективизации, земля будет отобрана у его соотечественников, украинских и русских крестьян. Думается, знал об этом поэт Светлов, но, как и многие его литературные собратья, промолчал. Подобно тому как описанный в стихотворении отряд «не заметил потери бойца», писатели, увлеченные воспеванием боевых и трудовых подвигов, не обратили внимание на гибель миллионов граждан в собственной стране.

Через десять лет после написания «Гренады» началась другая гражданская война—в Испании. Свыше трех тысяч советских добровольцев сражались в ней против франкистов. Романтическая мечта сделалась явью, идеи пролетарского интернационализма показали себя в действии... Беда только, что успех в этой войне сопутствовал не нашим друзьям. А иные из ее участников закончили жизнь в сталинских застенках.

Затем вторая мировая... В благодарность за услуги и помощь, оказанные ему Гитлером, Франко послал на Восточный фронт «Голубую дивизию». У них — тоже своя солидарность, об... идеалы... Не могу припомн..., откликнулся ли М. Светлов на вторжение испанских солдат в Советский Союз, но аналогичной акции итальянцев он посвятил специальное — и в свое время тоже широко и..естное —стихотворение, н...нное близко к жанру эпитаф....

«Молодой уроженец Неаполя! Что оставил в России ты на поле?» — вопрошает поэт, рассказывая об участи интервента, бессмысленно гибнущего в чужой стране, вдали от родного очага. Строчки у Светлова — будто строчит пулемет: «Я стреляю — и нет справедливости справедливее пули моей!» Но одна ли справедливость для всех?

...В 1983 году слово «Гренада» вновь замелькало на страницах мировой прессы, зазвучало в теле- и радиоэфире. Речь шла уже о другой Гренаде, небольшом острове в Вест-Индии, куда высадились американские войска — тоже, чтобы восстановить «высшую справедливость». СССР, если не считать гневных протестов, в события не вмешивался — да и как вмешаешься? К тому же наше государство было по горло занято «интернациональной помощью» в Афганистане и улаживанием других сложных и неотложных проблем.

На протяжении десятилетий мы стремились осчастливить другие народы, ближние и дальние. Отдать им, как у Светлова, землю, организовать производство, помочь овладеть самым передовым мировоззрением... При этом само собой подразумевалось, что сами мы счастливы больше некуда и располагаем бесценными образцами для подражания.

У журналистов существовала специальная рубрика — «Советский опыт». Мы ликовали, когда лидер какой-нибудь малоизвестной, не сразу отыскивающейся на карте мира страны заявлял о намерении объединить своих подданных в колхозы, национализировать мелкие лавочки или начать возделывать банановые плантации по примеру передовых отечественных кукурузоводов — квадратно-гнездовым способом.

Впрочем, и производить какие-либо «прогрессивные преобразования» было вовсе не обязательным. Порой достаточно было просто объявить о приверженности «социалистическому пути», «вечной дружбе» и «притягательной силе великих идей». И сразу же в далекую страну десантировались советники и специалисты, в непроходимых джунглях вырастали гигантские комбинаты и гидроузлы, и в один миг появлялись «МИГи» и другое сверхсовременное оружие —для защиты молодого прогрессивного режима от «коварных происков империализма».

Дело дошло до того, что кому-то из далекого далека наше государство стало казаться дойной коровой, жирной и упитанной, не с рогами —со сверкающей имперской короной на голове... Это наша-то хилая нечерноземная буренушка, у которой для своих деревенских детишек молока не всегда хватает.

Недавно в печати впервые появилась пугающая цифра: 85 800 000 000. Такова сумма, которую задолжали нам наши зарубежные друзья. Ладно, не в деньгах счастье. Но кто вернет тысячи молодых жизней, загубленных на чужой земле, в чужих войнах?

И если сегодня кто-нибудь начнет рассказывать мне о крупных политических и стратегических выгодах, которые получила наша страна, выполняя свой «интернациональный долг», позволю себе усомниться.

Простите, но я не понимаю, какие выгоды приносит нам, к примеру, Асуанская плотина. И вообще, признаюсь, не вижу, что выиграли мы от многолетнего заинтересованного участия в делах Ближнего Востока. Единственно, что вижу, — такое участие позволило нам несколько отвлечься от неприятных проблем у себя дома. Занимаясь проблемами палестинских беженцев, не заметили, как беженцы появились в собственной стране...

Но вернемся к стихам, с которых были начаты эти заметки. Мудрые поэты хорошо знают истинную цену своим произведениям. «Я оставлю вам в наследство сберегательные книжки моих стихотворений, на которых не осталось ни копейки денег, — говорил М. Светлов. — Но зато вам всегда будет что почитать на ночь».

Гренада, Гренада, Гренада моя... Красивые все-таки раньше писали стихи.

**Владимир РЕЗНИЧЕНКО.**





Чарнобыльскай трагедыі прысвечана новая стужка беларускіх кінематаграфістаў «Ваўкі ў зоне», якая здымаецца на эксперыментальнай студыі «Беларусьфільма» «Імпульс». Фільм-прытча раскажа аб няпростых узаемаадносінах людзей, якія засталіся ў зоне пасля адсялення, аб тым, як праламляюцца чалавечыя характары ў экстрэмальных умовах.

Перыпетыі сцэнарыя беларускага пісьменніка Анатоля Дзялендзіка (пры ўдзеле Уладзіміра Кісліцына) мяжуюць з дакументальнымі кадрамі, што зняты ў раёнах адсялення пасля аварыі на АЭС, і надаюць рабоце асаблівую дакладнасць. Для ўдзелу ў фільме рэжысёр-пастаноўшчык Уладзімір Дзяругін запрасіў вядомых акцёраў Юзаса Кіселюса, Станіслава Садальскага і іншых.

На экраны фільм выйдзе напярэдадні пятай гадавіны чарнобыльскай трагедыі.

НА ЗДЫМКАХ: у час здымак фільма «Ваўкі ў зоне»; выканаўца ролі Радзівона акцёр Юзас КІСЕЛЮС.

Фота У. ШУБЫ.

Віктар ВАСЮЧЭНКА

# УПРОЧКІ

## АПАВЯДАННЕ

Мікіта любіў сцюдзёныя зімовыя ранкі, калі кодаб ягонага грузавіка напаўняўся боханамі, перапечкамі, абаранкамі з макам, павыпяканымі ўночы. Ён тады грэўся думкаю пра тое, як хораша там, у кодабе, дзе цёплы хлебны дух, дзе маўкліва і ўтульна, дзе ніхто не абзывае скацінаю, казлом, вадзівотам. А яго сёння, як прывалачэцца дахаты, зноў абзавуць. Будуць пілаваць па чарзе: спярша Францаўна, потым жонка. А можа быць, і разам: Францаўна і жонка. А ён будзе цярпець, як церпяць тыя няшчасныя ў цырку, якіх факір перапілоўвае на дзве часткі. Што ж, вінаваты. Учора быў агрызнуўся, і вось маеш. А лепш было маўчаць, сапці сабе ў дзве дзюрачкі, не зважаць на тое, як яны міргаюць адна адной, перамаўляюцца. Маўчаў жа раней, калі ўпікалі за тое, што не па-іхняму, не па-местачковаму браў відэльца або нажа. Надаралася, ён спрабаваў распавесці ім за вячэраю пра тое, як лютуе на вуліцах сцюжа, як ліпнуць рукі да настылага зялеза, як сонца ападае долу акрэплым яблыкам, і як цёпла дыхае хлеб, раніцой выняты з печы. А Валерыя з Францаўнай глядзелі на яго так, нібыта чакалі, што вось-вось выскачыць з-за губы жаба. Тады ў іх вочы рабіліся аднолькавыя: сінія ледзяшы, упраўленыя ў вачніцы.

Адной Леакадзіі Францаўне дазваляліся доўгія і паважныя размовы за сталом, бо яна ведала ўсё пра планету Зямля і пра мястэчка, што патрэбна ведаць культурнаму чалавеку. Пра кожнага з местачкоўцаў яна магла б распавесці такое, чаго ён сам пра сябе не ведаў: хто з кім спаў, у каго нарадзіцца дурное дзіця, па кім сумуе турма і хто хапянуў замежнае хваробы СНІДу, пра якую не здагадваецца. Яшчэ Францаўна ведала, адкуль маразы: ракеты нарабілі дзірак у іянасферы, і праз іх точыцца ўсясветны холад. Вучыла, як ратавацца ад радыяцыі: двойчы перакіпеніць малако, і тады можна піць. Барані бог запярэчыць ёй, ведаў Мікіта, якраз і атрымаеш замест культурных слоў волуха ці вадзівота. Тады і засумняваешся: можа быць, і напраўду волух?

А ўчора агрызнуўся. На яго набегла нешта: нейкая зухаватасць, дзіцячае жаданне хоць неяк зварухнуць непахісную, як сцяна, цешчыну ўпэўненасць ва ўсім, што яна мовіць і што робіць. Якраз завітаў Янусь, швагер. Ён нічога, хаця на падпітку м[illegible] выкінуць коніка. Калі б Францаўна пра тое ведала, то не чаплялася б да Януся з роспытамі ў той час, як госць шчыраваў над кавалкам смажанай гусі. Ёй жа карцела ведаць, колькі хлапец зарабляе на [illegible]ім трактары, яна ўгаворвала [illegible]ся кінуць вёску і перабрацца ў мястэчка, дзе толькі дурны (яна паглядзела ў Мікітаў бок) не зможа як след уладкавацца, а што да бацькоўскае хаты, дык трэба прадаць, бо «дом гэта там, гдзе харашо жыць». Янусь ажно перастаў жаваць, агаломшаны важнасцю мудраслоўя. Але Мікіта ўжо трымцеў: зараз утворыць штуку. Так і сталася. Янусь узяў ды ўшчыкнуў Францаўну за бок якраз у той момант, як яна разлівала па кубках саламатку. Францаўна адскочыла, як дзяўчо, і яе дзябёлае цела перанеслася на два метры ўбок. З-за Янусёвай спіны яна паказала на скроню, а потым пальцамі тае ж рукі пастукала па буфеце. Валерыя ўсміхнулася ёй аднымі вачамі. Гэтая маўклівая згода паміж імі, мабыць, і раз'ятрыла Мікіту. «Чаго вы паказваеце от так, — сказаў ён, — чаго вы стукаеце? Можа быць, ён якраз і не дурнейшы ад вас, а вы яму паказваеце». Адразу ж ён і выслухаў свайго «волуха» і «казла» і яшчэ шмат прыемных словаў, якія выскоквалі з цешчынай губы, як шарыкі ў гульні «Спортлато», і глуха бубнелі ў вушах.

Бяседа разладзілася, усе разбрыліся па кутох. У адным — Францаўна горача нашэптвала дачцы так, каб чулі за дзвярыма і Мікіта з Янусем. «Разрадзіцца, — казала яна, — толькі развадзіцца. Каб жа ён багатыр які быў, а то смех адзін, і ты не меней за яго ў хату прыносіш. І нашчот красаты ты красівейшая, дык што ён выступае. А нашчот культуры я не кажу, бо ён прывык у дзярэўні побач са свіннямі, а тут яму не хлеў, а кварціра. І нашчот душы...» Падлік быў не на карысць Мікіты, і ён моўчкі з тым пагадзіўся. А Янусю ўсе гэтыя размовы былі нішто, бо ён паспеў ужо адамкнуць шафку і выцягнуць адтуль пляшку з чырвоным пеўнем на наклейцы. Мікіта быў не піток, іншым разам бы адмовіўся, тым болей пітво было цешчынае, але зух яшчэ не ўвесь выветрыўся, і ён глынуў рудаватай цякоміны. З астатняга, што адбывалася ў той вечар, ён выразна памятаў толькі вось што: пакрыўджаная цешча ўжо добрую гадзіну плёскаецца ў ванне, а ім няма як схадзіць у адно мейсца. Тады яны выходзяць на балкон, у цемрыва ночы, і некуды паліваюць, можа быць, нават на дах суседавага аўтамабіля, надта ж ужо цурболіла.

Сёння ён прачнуўся з болем у галаве, праводзіў Януся да аўтастанцыі і паплёўся на працу. Францаўна і Валерыя яшчэ спалі. Пілаваць яго будуць увечары: спярша цешча, потым жонка. Можа быць, і абедзве разам. Пакуль што ўсё ішло як след: ён паварочваў руля, дарога круціла яго, разам з боханамі і перапечкамі, вакол мястэчка, па коле. Выпадкова адвёўшы вочы ад дарогі, ён убачыў хвалістую лінію дрэваў, што прашывалася дзвюма вострымі вежамі касцёла, а над змрочным зелянівам елак зусім невысока вісеў чырвоны кругляк сонца, — яно як быццам рыхтавалася назусім упасці ў апраметную і не паўстаць з яе аніколі. І ў Мікіты ўпала сэрца: нібыта гэтае вусцішнае сыходжанне сонца ў невядомасць абяцала і яго нейкім чынам выбіць з наезджанае каляіны.

А ён жа прыцярпеўся да свайго кола, часамі яму пачувалася ў ім нават няблага. Тады, як вёз праз сцюжу і завіруху абаранкі і хлеб — мяккі, духмяны, цёплы. Можа быць, і яму перападала ад тае хлебнай цеплыні, з чым ён вяртаўся дадому, у іхні выстуджаны пакой. Вечарамі за вокнамі тварылася жахлівае: штосьці круцілася, штосьці мільгала ў шыбіне, нібы ў няспраўным тэлевізары; у пакоі халаднавата блішчэла з-пад паўпразрыстай засні электрычнае святло, адсоўвала змрок у куты, але нікога не саграваала. У такія вечары Валерыя спяшалася пагасіць лямпу і нырнуць пад коўдру, прыхінуцца да яго азяблым, дрыготнім целам. Цяпло, мусіць, адзінае, чаго яна ў ім шукала і дзеля чаго цярпела ягоную нудную прысутнасць удзень. Уначы, калі ёй і яму рабілася горача, ён чуў ад яе словы, якія прыгадваў уранку і дзівіўся, што яна магла іх вымавіць. У белы дзень Мікіту здавалася, што ён прысніў яе паслухмянае цела, якое ўжо нібыта не хавала аніякае тайны паміж ім і ёю, бо загадка тае сцяны, што ўдзень раздзяляла розных людзей, яго з Валерыяй, вырашалася надзвычай проста: кожны прагне цяпла і, не маючы яго ў сабе, знаходзіць у іншым. Ніякае чужасці не існавала паміж імі, калі яны ўдваіх заміралі, баючыся выпусціць хаця б каліва цяпла, якое, аднак, пакрысе ды няўмольна ўсё ж сплывала ад іх у цемру і цішыню. Было чуваць, як пакутуе без сну Леакадзія Францаўна, жаласна енчылі пад ёю спружыны халоднага ўдовінага ложка.

Праўда, зрэдчасу тыя спружыны спявалі нешта весялейшае пасярод начы — калі да Францаўны наведваўся яе даўні сябар, Юзік, чырванатвары мацак гадоў пяцідзесяці. Пасля тых спеваў, якія надта не падабаліся Валерыі, у кватэры панаваў пераможны храп, да якога Мікіта прыслухоўваўся з павагаю і думаў пра тое, што гэта не Францаўна храпе, гэта мухі гудуць, што ў ейным носе, а каб іх было паменей, то і яму жылося б лягчэй. Употай ён спадзяваўся, што пасля гэтае начы нешта зменіцца, бо Францаўна, хаця і чалавек вышэйшае, чым ягоная, пароды, ды ўсё ж жанчына, ды, глядзі, якая яшчэ спраўная пры сваіх гадах, а цяпер, як гэта высветлілася, дык, можа, хоць перастане на яго рыкаць. Аж не. Тое, што было ўначы, таго як бы і не было, яно не датычылася дзённых справаў. І Мікіту па-ранейшаму калолі ў вочы ягоным няўменнем па-местачковаму трымаць відэлец і па-культурнаму гаварыць. Юзік раставаў, як прывід, знікаў на месяц, на два, і Мікіта мог толькі здагадвацца куды: галоўнымі сярод захапленняў Юзіка былі матацыкл і рыбалка, ужо за імі — жанчыны. Калі Юзік не вернецца сёння ўвечары, на што малая надзея, то Францаўна будзе лютаваць як ніколі. Наперадзе цяжкі вечар, з доўгімі натацыямі, а можа, нават з віскатам і тупатам ног. Таму Мікіта, загнаўшы машыну, не надта спяшаўся дахаты.

Цісну шчыры калядны мароз, ад якога зліпалася ў носе. Па вуліцах гуляў зюзя, дыхаў у шыбіны, у людскія твары. Местачкоўцы ратаваліся хто чым: хто кажухом, хто сытнай стравай і пітвом, хто каханнем у зацямнёных спальнях. Ужо снаваліся паміж будынкамі дзяды-марозы з сінімі шчокамі, з прымацаванымі насамі і барадамі, усе аднолькава п'янаватыя, з гэткімі ж п'янаватымі сняготкамі.

# ЗАМЕСТ ТАГО, КАБ КВІТНЕЦЬ

З адкрытым лістом да Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, апублікаваным у 32 нумары «Літаратуры і мастацтва», звярнулася група дзеячаў беларускай культуры, сяброў Рады Беларускага краязнаўчага таварыства.

У снежні мінулага года, паведамляецца ў лісце, адбылася канферэнцыя краязнаўцаў, гісторыкаў, рэстаўратараў, музейных работнікаў, дзеячаў культуры, якая з падставы шырокага прадстаўніцтва ўсіх рэгіёнаў рэспублікі і ўсіх зацікаўленых лёсам культуры арганізацый атрымала паўнамоцтвы з'езда і адрадзіла Беларускае краязнаўчае таварыства (БКТ), што існавала ў 20-х гадах да пачатку сталінскага тэрору. З'езд прыняў Праграму, Статут і абраў Раду БКТ.

Неўзабаве ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР былі пададзены неабходныя паперы для рэгістрацыі таварыства. Але ў адказе, падпісаным былым намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікулічам, катэгарычна адмаўлялася нават сама ідэя стварэння БКТ. Краязнаўцам дазвалялася існаваць адзіна ў якасці секцыі пры Беларускім фондзе культуры.

У маі бягучага года сабраўся Вярхоўны Савет БССР новага склікання, былі абраны Старшыня і яго намеснікі, утвораны новы Прэзідыум.

Аўтары адкрытага ліста адзначаюць, што ў адносінах да БКТ усё засталося па-ранейшаму. На паўторную заяву аб рэгістрацыі БКТ зноў адказана адмовай, падпісанай намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета БССР В. Шаладонавым.

«Зноўку са спасылкамі на дробныя хітрыкі закона 1932 года, — пішацца ў лісце, — нам даводзяць, па якой каляіне трэба ісці да лепшае будучыні».

Адзначаецца таксама, што без увагі засталіся і тлумачэнні ад імя Фонду культуры, а таксама абгрунтаваны Зварот да першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета БССР С. Шушкевіча.

Адмоўнае стаўленне да адроджанага Беларускага краязнаўчага таварыства, на думку аўтараў адкрытага ліста, нельга расцэньваць інакш, чым свядомы здзек, і таму Прэзідыум павінен выправіць памылку. Гэтага вымагае сённяшняя сітуацыя, занядбаны стан беларускай культуры, нізкі ўзровень гістарычнай і нацыянальнай свядомасці народа. «Тое, што другія народы зберагаюць як найкаштоўнейшы скарб, у нас лічылася, ды і лічыцца смеццем. Дзе яшчэ ўзарвана ці спалена столькі старых будынкаў, столькі цэркваў і касцёлаў, узарана курганаў, высушана рэчак, скалечана мястэчак, зменена гістарычных назваў? Бадай што немагчыма прыгадаць другую еўрапейскую краіну, дзе б гэтак планамерна вынішчалася гістарычная памяць народа».

Як прыклад варварскіх адносін да сваёй спадчыны аўтары называюць зусім нядаўняе рашэнне выкарыстаць гістарычныя пабудовы Гальшанскага замка ў якасці кароўніка.

Каб не ўзнікала ніякіх перашкод у гэтай працы, адміністрацыйна-камандная сістэма трымала пад прыгнётам і беларускае краязнаўства — галіну культуры, што выступае захавальнікам гістарычнай памяці, аберагае ўсе адзнакі нацыянальнага ладу жыцця, увесь назапашаны за тысячагоддзі масіў асаблівасцей народа.

«Сёння стан нашага краязнаўства, — сцвярджаецца ў лісце, — нельга параўнаць нават з трагічным станам беларускай мовы. Яно на мяжы скону. Адмова ў рэгістрацыі БКТ — гэта абраза нашых патрыятычных пачуццяў і гвалт над нашымі грамадзянскімі правамі».

# крынічка





Новы Палац культуры адкрыўся ў раённым цэнтры Івацэвічы. У ім дзве глядзельныя і танцавальная залы, прасторныя холы, у адным з якіх размясцілася карцінная галерэя. Памяшканні для работы атрымалі маладзёжны цэнтр, народны духавы аркестр, вакальна-інструментальны ансамбль «Мікры». З першых жа дзён пачаў сваю дзейнасць у Палацы і дзіцячы эстэтычны цэнтр. Многа цікавага чакае тут хлопчыкаў і дзяўчынак, я любяць музыку, жывапіс, тэатральнае мастацтва.

НА ЗДЫМКАХ: новы Палац культуры ў Івацэвічах; сустрэчу з любімымі казкамі рыхтуюць мясцовай дзятве ўдзельнікі дзіцячага эстэтычнага цэнтра Палаца.

Фота Л. КЛІМАНСКАГА.

Уладзімір ЯГОЎДЗІК

## РАК

Навучу цябе, мой маленькі сябар, цікавай скорагаворцы. Слухай, запамінай. Потым паспрабуй пераказаць. Ды голасна і як мага хутчэй.

**Ехаў грэка цераз рэку.**
**Бачыць грэка: у рэчцы рак.**
**Сунуў грэка руку ў рэку,**
**Рак за руку грэку — цап!**

Не бяда, калі на першы раз заблытаўся язык. На тое і скорагаворка.

А вось цікаўнага грэку мне шкада. Пэўна, зваліўся ў рэчку, вымак да апошняй ніткі небарака. Бо клюшні ў рака — што абцугі кавальскія. Нікому не раю здароўкацца, калі ён яшчэ не выкупаны ў кіпні і не стаў чырвоным.

Жывуць ракі ў азёрах і рэках. У норках, пад карчамі ці каменнем. Спажываюць усё, што патрапяць злавіць: чарвякоў, рыбу-малечу, іншую дробную вадзяную жыўнасць. Загіне хворая рыбіна — яны тут як тут, нават хваста ад яе не пакінуць. Не даюць забрудзіцца вадзе і тым прыносяць вялікую карысць.

Дзіўнае стварэнне — рак! Вусаты, з сярдзітымі, нібы прылепленымі вачыма. Аднак самае дзіўнае, бадай, што ён поўзае і плавае. Хвастом наперад! А ўсё таму, расказвае паданне, што з вусачом здарылася вось якая прыгода..,

Калісьці на Беларусі панавала ноч. Доўгая-доўгая. Цёмная-цёмная. Можа, і дасюль панавала б, але прыйшоў добры чараўнік і вярнуў на нашу зямлю сонца. Потым склікаў усіх сляпых і кожнаму даў вочы, каб маглі цешыцца сонечным святлом. Апошні заявіўся рак. Надзьмуўся, нават не прывітаўся.

— А ты дзе дасюль бадзяўся? — спытаў яго чараўнік.

— У карчах блытаўся, — прабурчаў рак.

— То вазьмі сабе вочы, што засталіся, — падаў кош чараўнік,— больш ніякіх няма.

Знайшоў рак у кашы вочы, памацаў іх клюшнямі ды шпурнуў на зямлю.

— Сабе вазьмі гэтыя лупачы, а мне такія непатрэбны!

І павярнуўся, каб паўзці да сваіх карчоў.

— Ах ты, няўдзячны пагány рак! — зазлаваў на ганарліўца чараўнік і прыляпіў яму абы-куды вочы. — Дык ведай, калі яны табе непатрэбны, будзеш поўзаць хвастом наперад, а глядзець заўсёды назад!..

**Так яно і сталася. Кожны можа ўпэўніцца.**

Уладзімір ДУБОЎКА

## ЗІМА І ЛЕТА

**Сустрэлася з Летам Зіма:**
**— Нідзе ў цябе ладу няма!**

**Як толькі з'явілася ты,**
**Усе мкнуцца ў цянёк, пад кусты.**

**А ходзяць — нага за нагу!**
**Я нават глядзець не магу!**

**Вось я калі стану ізноў,**
**Не ўседзіць ніхто ля кустоў!**

**Трушком пабягуць і дзяды,**
**Не горш, чым які малады.**

**Для моладзі будзе размах:**
**На лыжах бяжы, на каньках.**

**Згадзіся ты, Лета, са мной:**
**Мілей жыць на свеце зімой!**

**Смяялася Лета ў адказ:**
**— Не знаю, мілейшы хто з нас!**

**Ніяк зразумець не магу:**
**Чаму ад цябе ўсе бягуць!**

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

## БЯДА

**Саўка ды Грышка**
**Трапілі ў бяду:**
**Саўка ды Грышка**
**У школу не ідуць.**
**Саўка ды Грышка**
**Лёталі з гары.**
**Пагублялі кніжкі,**
**Кніжкі-буквары.**
**А сабака Рыжык**
**Бегаў па двары,**
**А сабака Рыжык**
**Згледзеў буквары:**
**«Зацягну у будку**
**Ды чытаць там буду!»**

**Не кідай жа кніжку**
**Так, як Саўка з Грышкам,**
**Бо й суседскі Шарык**
**Марыць пра букварык.**

Віктар ГАРДЗЕЙ

## САРОЧЫНА БАГАЦЦЕ

**Ранкам на сасне высокай**
**Выхвалялася сарока:**
**— Я багацця многа маю —**
**Розны скарб даўно збіраю.**
**У гняздзе ёсць бранзалетка**
**І сярэбраная кветка.**
**Ёсць тры лыжкі, ёсць іголкі,**
**Ёсць бліскучыя асколкі**
**Ад былой крыштальнай вазы.**
**Нават маю два алмазы,**
**Вунь гараць яны на сонцы**
**У гняздзе на самым донцы.**

**Тут з-за бору хмар нагнала —**
**І алмазаў тых не стала.**
**Выхваляка анямела,**
**Бо, відаць, не зразумела,**
**Што ў гняздо яе з галінкі**
**Проста ўпалі дзве расінкі.**

## СКОРАГАВОРКІ

Касіў касы
каля касы,
Зламаў касы
кассё ў касы.
Касы, вачамі
не касі,
касой тупою —
не касі!

Мікола ЧАРНЯЎСКІ.

Шчупакі, шчупакі
павыскоквалі з ракі:
«Скок-скок, смех які —
нас не зловяць рыбакі!»
А здалёку хлапчукі
пазіраюць з-пад рукі:
вось дык дзіва — шчупакі
павыскоквалі з ракі!

Алесь КАСКО.

Алесь ЗАЙКА

## СІНІ ЗВАНОЧАК

**Казка**

Сіні Званочак жыў пад зялёнай Елачкай пры самай дарозе. Больш за ўсё на свеце любіў ён спяваць. Песень ведаў шмат і спяваў іх з ранку да вечара. Праўда, Сіні Званочак яшчэ не вырас — і галасок у яго быў слабы.

Часам па дарозе ішлі і ехалі людзі. Тады Сіні Званочак напружваў галасок, але людзі нават не глядзелі ў яго бок.

Сіні Званочак закрываў свае пялёсткі і жаліўся:

— Елачка, ну чаму я такі маленькі? Чаму ніхто не чуе маіх вясёлых песень?

— Не бядуй, Сіні Званочак, — суцяшала Елачка. — Я табе дапамагу.

Прыляцеў аднаго разу Ветрык, і Елачка сказала яму:

— Мілы Ветрык! Папрасі Хмарку, няхай палье Сіні Званочак, каб вырас вялікі, каб усе пачулі яго песні.

Паляцеў Ветрык у неба, расказаў Хмарцы пра ўсё і просіць:

— Хмарка, збірайся, калі ласка, у дарогу. Сіні Званочак нас чакае.

— Добра, — згадзілася Хмарка. — Толькі дапамажы мне плысці.

Ветрык падзьмуў — і Хмарка паплыла.

Елачка ўбачыла Хмарку і замахала лапкамі:

— Тут мы! Тут мы!..

Развязала Хмарка свой чароўны мяшэчак — паліўся на зямлю цёплы дожджык.

— Дзякуй вам, Елачка, Ветрык і Хмарка, — радаваўся Сіні Званочак. — Я ўжо вялікі!

І заспяваў сваю самую любімую песню.

Спявае Сіні Званочак, а птушкі дапамагаюць, звонка, весела. Усе пачулі: і лес, і поле, і людзі, і сонца ў небе.

## КАНІКУЛЫ

*Муз. Л. ЗАХЛЕЎНАГА Словы А. ВОЛЬСКАГА*




**Аж да асенняе пары**
**Бывай, гаворым школе.**
**Чакаюць нас лясы, бары**
**зялёны луг і поле.**
**Прыпеў.**
**Канікулы, канікулы, вялікія канікулы**
**У лагеры паклікалі вясёлы наш народ.**
**Будуць песні і паходы, гульні і прыгоды.**
**З намі ў лагеры заўсёды шмат здараецца прыгод.**

**Ты, школа, не крыўдуй на нас,**
**Усе мы шчыра просім.**
**На ўсё свой час, на ўсё свой час,**
**І вернемся мы ў восень.**
**Прыпеў.**



**НАШ АДРАС:**

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1108